РАЁННАЯ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# ГОЛАС КАСЦЮКОЎШЧЫНЫ

№ 66 (7879) Заснавана ў красавіку 1931 года СУБОТА, 26 жніўня 2000 г. Цана 25 руб.

НАСУСТРАЧ З'ЕЗДУ САВЕТАЎ

## Вызначана дата сходу дэпутатаў

Згодна з Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 1 жніўня 2000 года аб скліканні з'езда Саветаў, у Касцюковічах хутка адбудзецца раённы сход дэпутатаў раённага і сельскіх Саветаў дэпутатаў. Яго намечана правесці 31 жніўня.

Для падрыхтоўкі і правядзення гэтага сходу народных выбраннікаў створаны арганізацыйны камітэт у складзе 10 чалавек. У яго ўвайшлі: старшыня раённага Савета дэпутатаў Мікалай Трубчык, намеснікі старшыні райвыканкама Віктар Сугака, Васіль Мар'еў, Валянціна Кавунова, загадчык аддзела арганізацыйна-кадравай работы Сяргей Стасеў, намеснік старшыні раённага Савета дэпутатаў, дырэктар хлебазавода Леаніда Смоліна, старшыня Пралетарскага сельскага Савета, старшыня пастаяннай камісіі мандатнай і па мясцоваму кіраванню і самакіраванню райсавета Уладзімір Лістападаў, галоўны спецыяліст раённага Савета дэпутатаў Наталля Кірпічэнка, галоўны рэдактар райгазеты "Голас Касцюкоўшчыны" Мікалай Дзятлаў, вядучы спецыяліст аддзела арганізацыйна-кадравай работы райвыканкама Любоў Цітова.

23 жніўня прайшло першае пасяджэнне аргкамітэта. Вёў яго М. С. Трубчык. Зацверджаны план работы па падрыхтоўцы і правядзенню раённага сходу дэпутатаў. Узгоднены парадак дня, вызначаны праблемы, якія будуць абмеркаваны на сходзе. У прыватнасці, будзе разгледжана пытанне аб сацыяльна-эканамічным становішчы і палітычнай сітуацыі ў раёне. Мяркуецца выбраць дэлегатаў на рэспубліканскі з'езд Саветаў.

## Тыдзень адказных работнікаў райвыканкама

На гэтым тыдні адказныя работнікі райвыканкама вырашалі пытанні, звязаныя з падрыхтоўкай да жнівеньскай канферэнцыі настаўнікаў, выбараў у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, раённага сходу дэпутатаў мясцовых Саветаў і іншых важных падзей. Па-ранейшаму вялікая ўвага ўдзялялася надзённым задачам, якія ўзнікалі ў рабоце аграпрамысловага комплексу і іх практычнаму вырашэнню.

22 жніўня старшыня раённага выканаўчага камітэта Міхаіл Барысаў правёў аператыўную вытворчую нараду з кіраўнікамі калгасаў, прадпрыемстваў і арганізацый, райсельгасхарчу. Разглядаліся пытанні аб выкананні дзяржзаказа на закуп збожжа, разлікаў з пастаўшчыкамі за атрыманае паліва. Прысутнічалі члены раённага выканаўчага камітэта.

Заслуханы тлумачэнні старшынь калгасаў, якія запэўнілі, што разлікі будуць праведзены да 25 жніўня. Кіраўнікі гаспадарак былі абавязаны арганізаваць продаж збожжа так, каб справіцца з гэтай работай своечасова.

На парадку дня былі меры, якія трэба прыняць у гаспадарках, каб павялічыць тэмпы ўборкі збожжавых і кармавых культур. Як адзначалася, яны нездавальняючыя. Таму варта ўсюды больш арганізавана і прадукцыйна выкарыстоўваць тэхніку.

Наступілі тэрміны сяўбы азімых культур. Яе намечана правесці да 15 верасня. А для гэтага трэба хутчэй завяршыць ворыва глебы, больш актыўна весці самую сяўбу.

На нарадзе з інфармацыяй аб захаванні дысцыпліны, падтрыманні парадку ў калгасах выступіў начальнік аддзела ўнутраных спраў райвыканкама Яўген Кастроў. Ён прывёў шматлікія факты п'янства, крадзяжу, супраць чаго неабходна больш рашуча і эфектыўна змагацца. У сваім выступленні пракурор раёна Анатоль Малахоўскі падкрэсліў, што захаванне маёмасці, выхаванне людзей – важнейшы абавязак кіраўнікоў усіх калектываў.

Завяршаючы нараду, М. Р. Барысаў паставіў задачы па заканчэнню ўборкі збажыны, узмацненню сяўбы азімых, патрабаваў, каб была аказана неабходная дапамога жыхарам сяла ва ўборцы збожжа на ўчастках.

Кожную раніцу праводзіліся пасяджэнні раённага штаба. Каардынаваліся намаганні па забеспячэнню арганізаванай уборкі ўраджаю, правядзенню іншых палявых работ.

24 жніўня прайшла абласная селектарная нарада з удзелам кіраўнікоў мясцовых органаў улады і кіравання, гаспадарнікаў. Абмеркаваны комплекс асноўных праблем аграрнага сектару, вызначаны меры па іх вырашэнню.

Вёў нараду старшыня аблвыканкама Міхаіл Дражын. Ён звярнуў увагу кіруючых кадраў на вырашэнне шэрагу неадкладных і важнейшых пытанняў у сельскай гаспадарцы.

З дакладам выступіў намеснік старшыні аблвыканкама, старшыня камітэта па сельскай гаспадарцы і харчаванню Пётр Кандратаў.

Былі заслуханы тлумачэнні кіраўнікоў раёнаў.



*КАМЕНТАРЫЙ СПЕЦЫЯЛІСТА*

## ШТО ПАСЕЕШ, ТОЕ І ВЫРАСЦЕ

Вось надышоў час, калі пра ўраджай наступнага года ўжо трэба клапаціцца. І ў першую чаргу залежыць ён ад якасці насеннага матэрыялу. Варта адзначыць, што для правядзення сяўбы азімых у нашым раёне патрэбна 2,5 тысячы тон зерня. На сённяшні дзень патрэбная колькасць яго засыпана ў засекі. Цяпер важна ведаць, якой насенне якасці. Аднак заўважу, што не ўсіх аграномаў гаспадарак хвалюе гэта пытанне. Бо на праверку ў насенную інспекцыю прадстаўлена толькі 64 працэнты яго.

У трох гаспадарках насення азімых культур падрыхтавана намнога больш, чым планавалася. Так, у калгасе "Дуброва" нарыхтавана 172 працэнты яго, у калгасе "Парыжская камуна" – 147, "Прагрэс" – 119 працэнтаў да патрэбнай колькасці. У той жа час у калгасе "Праўда" не праверана ніводнага кілаграма насення, а ў такіх калгасах, як "Новы быт", "Бароньki", "Расія" праверана менш чым палова яго. Усё насенне азімых культур прайшло папярэднюю праверку на вільготнасць і жыццяздольнасць. Вынікі былі добрыя ва ўсіх гаспадарках.

Пасля ачысткі адпавядаюць патрабаванням пасяўнога стандарту 92 працэнты насення азімых культур, а астатнія 8 працэнтаў складае насенне, некандыцыйнае па чысціні. Ёсць над чым задумацца спецыялістам калгаса "Бароньki", дзе ўсё насенне некандыцыйнае па чысціні. У калгасах імя Карла Маркса і "Ленінскі шлях" па 50 працэнтаў некандыцыйнага насення. Пусцілі работу зернеачышчальнай лініі на самацёк у калгасе "Ленінскі шлях", дзе ў адным кілаграме насення азімага жыта налічваецца 320 штук зярнят пустазелля – пырніку паўзучага, а дапускаецца толькі 30. Дарэчы, аграном калгаса Р. І. Мічалёў неаднойчы папярэджваўся аб някаснай ачыстцы насення.

У калгасе "Бароньki" ачыстка насення на праверку вядзецца на стале. Аднак "ручны петкус" падвёў аграгнома П. Д. Струкава, насенне аказалася некандыцыйным па чысціні. Хочацца адзначыць калгасы "Дуброва", "Парыжская камуна", "Прагрэс", якія да 20 жніўня падрыхтавалі поўнасцю ўсе насенныя фонды азімых культур і выдзелілі для рэалізацыі яго 250 тон. 61 тона азімага жыта і пшаніцы рэалізаваны не насенневодчым гаспадаркам раёна для паляпшэння рэпрадукцыйнага саставу насення.

Хочацца сказаць, што ў гэтым годзе з-за вясенніх маразоў ураджай азімых культур атрыманы на ўзроўні яравых, але ўсё роўна азімае жыта дае стабільныя ўраджаі. Таму трэба ў кожнай гаспадарцы засыпаць насення больш ад патрэбнай колькасці і азімы клін дадаткова павялічыць на 25 працэнтаў.

Зараз, калі набліжаецца да завяршэння ачыстка насення азімых культур, трэба не ўпускаць работу з насеннем яравых зерневых. Ёсць выпадкі, калі насенне засыпаецца ў склады недасушанае, ідзе самасаграванне і тым самым зніжаецца ўсходжасць. Таму зараз аграномам неабходна ўдзяліць падрыхтоўцы насеннага матэрыялу яравых культур сур'ёзную ўвагу.

**Таццяна МІРАНКОВА,**
**начальнік раённай насеннай інспекцыі.**

### Звесткі

**аб колькасці і якасці насення на 23 жніўня 2000 года. Першая калонка – назвы гаспадарак, другая – паступіла на праверку насення (у працэнтах да плана), трэцяя – кандыцыйнае насенне (у працэнтах).**

| | | |
|---|---|---|
| "Прагрэс" | 100 | 100 |
| "Дуброва" | 100 | 100 |
| "Пар. камуна" | 100 | 100 |
| "Лен. шлях" | 94 | 50 |
| "Новае жыццё" | 71 | 100 |
| "Забычанне " | 68 | 100 |
| імя Калініна | 59 | 100 |
| імя К. Маркса | 51 | 50 |
| "Смолькі" | 51 | 100 |
| "Радзіма" | 50 | 100 |
| "Расія" | 49 | 100 |
| "Кранштат" | 34 | 100 |
| "Новы быт" | 33 | 75 |
| "Бароньki" | 32 | 100 |
| "Праўда" | — | — |
| **ПА РАЁНУ:** | **64** | **92** |

Актуальнае інтэрв'ю з першым намеснікам начальніка райсельгасхарчу Віталем НЯМЁНКІНЫМ

## ПЕРШ ЗА ЎСЁ – КАРМЛЕННЕ

**—У першым паўгоддзі грамадская жывёлагадоўля раёна, на жаль, яшчэ адставала ад мінулагодніх паказчыкаў па вытворчасці і рэалізацыі прадукцыі. Зразумела, што працягвалі ўплываць на яе развіццё негатыўныя фактары неспрыяльнага 1999 года. Пакінулі свой адбітак і сёлетнія недаробкі, промахі.**

**— Віталь Паўлавіч, скажыце, калі ласка, ці ўдалося змяніць сітуацыю да лепшага ў апошні перыяд?**

— Пакуль нельга гаварыць аб станоўчым пераломе ў гэтай вядучай галіне. Але некаторыя доўгачаканыя зрухі ёсць. У ліпені ў раёне вытворчасць малака павялічылася на 7 працэнтаў. Актыўна папрацавалі жывёлаводы калгасаў імя Калініна, "Парыжская камуна", "Радзіма", "Прагрэс". Тут атрымалі адпаведна на 32, 29, 25 і 20 працэнтаў прадукцыі больш, чым летась.

За мінулыя сем месяцаў валавая вытворчасць малака вырасла ў калгасах імя Калініна, "Радзіма", "Смолькі". Гэта ўсяляе надзею на стабілізацыю.

Адметна, што па раёну павысілася прадуктыўнасць дойнага статка. Надой ад каровы ў ліпені прыбавіўся на 10 працэнтаў, або на 22 кілаграмы. Намнога большай была прыбаўка ў калгасах "Парыжская камуна" (74 кг), імя Калініна (61 кг), "Радзіма" (54 кг). У "Парыжскай камуне" надоена ў разліку на карову за ліпень па 364 кілаграмы, "Радзіма" — 308 кілаграмаў, "Новым быце" і "Новым жыцці" – па 284.

Паўтараю, засмучае тое, што ў вытворчасці малака карэннага павароту не назіраецца. Па стану на 1 жніўня надоена ў раёне 7200 тон яго, або 92 працэнты да мінулагодняга сямімесячнага перыяду. З пачатку года ад каровы атрымана па 1119 кілаграмаў малака, што на 67 менш, чым летась.

**— Хто ж вінаваты ў адставанні?**

— Віноўнікі, безумоўна, кадры. Скажам, не толькі па аб'ектыўных, а і па суб'ектыўных прычынах не выйшлі на мінулагодні ўзровень вытворчасці калгасы "Кранштат", "Дуброва", "Забычанне". Менш чым па 1 тоне малака надаілі ад каровы ў "Забычанні", "Расіі", "Кранштаце", калгасе імя Карла Маркса. У ліпені надой склаў у большасці гэтых гаспадарак толькі 194-208 кілаграмаў.

**— Зараз ёсць магчымасці не дапусціць недабору малака ў параўнанні з мінулагоднімі надоямі. Як яны выкарыстоўваюцца?**

— Шкада, што ў некаторых гаспадарках з пачатку жніўня пачалі рэзка "падаць" надоі. У калгасах імя Калініна, "Ленінскі шлях" атрымліваюць ад каровы адпаведна на 300 і 700 грамаў менш, чым у сярэднім па раёну. Яны, а таксама калгасы "Дуброва", "Новае жыццё" за першую палову месяца знізілі надоі малака на 200-300 грамаў. Асноўныя прычыны: ігнараванне патрабавання аб трохразовым даенні кароў, безсістэмная пасьба, адсутнасць канцэнтратаў у рацыёнах.

(Працяг на 2 стар.)

### Звесткі

**аб сяўбе азімых культур у гаспадарках раёна па стану на 24 жніўня г.г.**

**Першая калонка – назвы гаспадарак, другая – графік сяўбы (га), трэцяя —пасеяна ў працэнтах .**

| | | |
|---|---|---|
| "Расія" | 92 | 55 |
| "Дуброва" | 117 | 51 |
| "Пар. камуна | 84 | 38 |
| "Лен. шлях" | 60 | 33 |
| "Забычанне" | 66 | 30 |
| "Новае жыццё | 81 | 19 |
| "Новы быт" | 117 | 13 |
| "Прагрэс" | 126 | 12 |
| "Кранштат" | 82 | 12 |
| "Праўда" | 60 | 3 |
| імя Калініна | 66 | — |
| "Радзіма" | 72 | — |
| імя К. Маркса | 114 | — |
| "Смолькі" | 57 | — |
| "Бароньki" | 90 | — |
| **ПА РАЁНУ:** | **1284** | **19** |

# ПЕРШ ЗА ЎСЁ — КАРМЛЕННЕ

.(Заканчэнне.
Пачатак на 1 стар.)

У той жа час арганізацыя трохкратнага даення і іншыя захады дазволілі калгасам "Бароньki" і імя Карла Маркса скараціць адставанне вытворчасці.

**— Якія якасныя паказчыкі рэалізуемага малака?**

— З пачатку года гаспадаркі ў цэлым прадалі 67,2 працэнта малака ад атрыманага. Удзельная вага рэалізаванай прадукцыі ў калгасе імя Карла Маркса склала 80,9 працэнта, “Новы быт” – 76,7. А вось калгасы "Праўда", “Дуброва”, "Ленінскі шлях", "Забычанне" здалі на завод 51-56 працэнтаў прадукцыі. Таварнасць яе ніжэй сярэдняраённай.

Не ўсюды ўдзяляецца належная ўвага пастаўкам прадукцыі высокай якасці. Так, на працягу апошняга тыдня калгас “Ленінскі шлях” прадаваў малако другога гатунку. Тлустасць – 3-2,9 працэнта.

**— Што зроблена жывёлаводамі ў мясным цэху?**

— У мясной галіне назіраюцца прыкладна тыя ж тэндэнцыі развіцця, што і ў малочнай. За ліпень атрымана 136 тон прывагі жывёлы, або на 6 працэнтаў больш, чым у гэтым месяцы летась. Вынік сямі месяцаў – 720 тон. Недабор у параўнанні з мінулагоднім склаў 8 працэнтаў.

З пачатку года атрымана па 317 грамаў сярэднясутачнай прывагі. Яна павялічылася на 11 грамаў. Для параўнання: абласны паказчык 308 грамаў, ён меншы за мінулагодні.

Нядрэнных паказчыкаў дабіліся даглядчыкі жывёлы калгаса "Новы быт". Яны павялічылі прывагу пагалоўя ў 2 разы. Забяспечаны прырост прадукцыі на 14 працэнтаў у калгасе "Парыжская камуна".

Наадварот, знізілася прадуктыўнасць жывёлы ў калгасах "Смолькі", імя Карла Маркса, "Радзіма", "Бароньki". Самая нізкая сярэднясутачная прывага была ў “Дуброве” – усяго 266 грамаў. Цялушкі, якія пойдуць для аднаўлення асноўнага статка, наогул прыбаўкі не далі. Яны былі проста запушчаны. Адсутнічаў кантроль за лячэннем хворых. Застаюцца нізкімі прывагі жывёлы ў калгасах “Новае жыццё", "Прагрэс", "Бароньki", "Радзіма".

На гэтым фоне выгадна адрозніваецца калгас "Парыжская камуна". Тут у ліпені прыбаўка ўсяго пагалоўя жывёлы склала 485 грамаў. На заключным адкорме атрымана больш як па 700 грамаў прывагі.

**— Паколькі паступае збожжа новага ўраджаю, відаць, з’явіліся шанцы на адраджэнне свінагадоўчай галіны?**

— У гаспадарках раёна ёсць 6970 свіней. Гэта складае 55 працэнтаў ад іх мінулагодняй колькасці. Заданне па развіццю свінагадоўлі ўвогуле выконваецца. Аднак не ўсюды пастараліся атрымаць неабходную прывагу. Сярэдняя па раёну прывага гэтай жывёлы – 255 грамаў. У калгасе “Дуброва" яна даведзена да 389. На свінаферме калгаса "Прагрэс" жывёла прыбавіла толькі на 135 грамаў. Зялёная маса бялковых культур тут не давалася. Бабовыя сумесі каля фермы пасеяў адзін калгас "Новы быт".

Зараз усюды закончыліся чарговыя туры апаросаў. Пачалася злучка жывёлы. Неабходна наладзіць добрае кармленне аднятых парасят, свінаматак і свінак. Абавязкова варта завезці і прымяніць камбікорм спецыяльных рэцэптаў для маладняку, каб захаваць. Між іншым, пытанне аб продажу парасят насельніцтву трэба ўзгадняць з упраўленнем.

**— Праблема захавання, павелічэння пагалоўя жывёлы вельмі вострая. Што трэба для яе паспяховага вырашэння?**

— Калгасы маюць 17356 галоў буйной рагатай жывёлы. Яе колькасць на 8 працэнтаў меншая, чым была на 1 жніўня 1999 года. Рэзкае скарачэнне дапусцілі калгасы "Расія", “Бароньki", "Радзіма", “Смолькі", “Забычанне". Яны і іншыя гаспадаркі не выкарысталі магчымасць павялічыць пагалоўе за кошт закупу цялят у насельніцтва. Мізэрную частку наяўнага маладняку ў вёсках прынялі на фермы калгасы "Забычанне", "Бароньki", "Расія".

Другі і самы галоўны рэзерв – атрымліваць як мага больш цялят у калгасах. Сёлета прыплод склаў 3918 галоў, які на 15 працэнтаў уступае мінулагодняму. Асабліва "вызначыліся" калгасы “Смолькі", “Забычанне", імя Карла Маркса, "Кранштат". У іх атрымана менш, чым па 50 цялят ад 100 кароў і цялушак.

Выклікае трывогу тое, што сёлета злучана і асемянёна 5902 галавы жывёлы – на 9 працэнтаў менш, чым у папярэднім годзе. Карэнным чынам палепшыць племянную работу – надзённая задача ўсіх без выключэння калгасаў і раённай племстанцыі. Мала ўводзіцца ў дойны статак цельных цялушак. Яны нізкай якасці.

І яшчэ. Трэба рашуча скарачаць непрадукцыйнае выбыццё жывёлы. Практычна трэцяя частка атрыманага маладняку губляецца. У асноўным – па прычынах дрэннага лячэння, кармлення і догляду. Зараз можна забяспечыць жывёлу паўнацэннымі рацыёнамі.

**— Якое з пастаўленых самім жыццём пытанняў з'яўляецца для грамадскай жывёлагадоўлі самым важным?**

— На першым плане – кармленне жывёлы. Даследаванні крыві паказваюць, што наяўнасць караціну, бялку, мінеральных рэчываў менш нормы. Востры дэфіцыт іх у сувязі з незбалансаванасцю рацыёнаў. Пасьба і падкормка праводзяцца з выкарыстаннем злакавых траў, што не задавальняе патрэбы. Таму ў калгасах неабходна ствараць паблізу ферм пашы з травастоем, у якім 40 працэнтаў канюшыны і іншых бабовых культур, абавязкова сеяць аднагадовыя: лубін, гарох, віку. У гэтым – перспектыва.

**— Дзякуй за інтэрв’ю.**

**Мікалай ДЗЯТЛАЎ.**

## *Чалавек і яго справа*

У яслі-сад № 1 Ірына Міхайлаўна Міроненка прыйшла чатырнаццаць гадоў назад. Уладкавалася выхавальніцай у ясельную групу, бо, як прызналася яна сама, вельмі любіць маленькіх дзетак. Іх яна больш разумее. А пачынала І. М. Міроненка шлях да любімай работы з таго, што закончыла Суражскае педвучылішча. Адзін год працавала ў школе, вяла малодшыя класы. З нараджэннем першага сына ў маладой жанчыны з'явілася жаданне быць разам з самымі маленькімі дзеткамі. Вучыць іх размаўляць, чытаць ім казкі, гуляць з імі, пазнаваць навакольны свет. Вось так І. М. Міроненка апынулася ў яслях-садзе № 1. Працавала нейкі час, атрымала першую катэгорыю выхавальніка. Гэта гаворыць аб тым, што дасканала вывучыла сваю справу.

Два гады назад Ірына Міхайлаўна прыняла групу дзетак. Зараз яны ўжо лічацца ў першай малодшай садаўскай групе. За гэты час яна вывучыла ўсіх хлопчыкаў і дзяўчынак. А як жа працаваць, калі не ведаць індывідуальнасць кожнага дзіцяці!

— Трэба заўважыць, што ў гэтай групе самыя спакойныя і паслухмяныя дзеткі, — гаворыць загадчыца садка Ала Аляксандраўна Канавалава. – Прыемна назіраць за тым, як яны з другога паверха спускаюцца па лесвіцы ўніз. Заўсёды ціхенечка, адзін за адным, пазіраючы на сваю выхавальніцу.

Хлопчыкі і дзяўчынкі разумеюць сваю другую маці, а яна іх. Ірына Міхайлаўна імкнецца заўсёды нечым зацікавіць малых. Сама І. М. Міроненка заўсёды прымае актыўны ўдзел у розных мерапрыемствах, якія праводзяцца ў садку. А калі падыходзіць нейкае свята, Ірына Міхайлаўна з задавальненнем ператвараецца ў аднаго з казачных герояў, якога дзеці вельмі любяць і чакаюць.

На здымку: Ірына Міхайлаўна МІРОНЕНКА

Фота Людмілы СМАЛЯКОВАЙ.

*НАПЯРЭДАДНІ НОВАГА НАВУЧАЛЬНАГА ГОДА*

## Веды – вялікая сіла

У сувязі з надыходзячым святам – Днём ведаў , хочацца сказаць, што веды – гэта самая вялікая сіла, якой можа валодаць чалавек. Якасць, узровень іх ва ўсіх сферах сацыяльнай дзейнасці забяспечваюць адпаведную якасць, узровень тэхналогіі як матэрыяльнай вытворчасці, так і духоўнай дзейнасці. А гэта, у сваю чаргу, вызначае агульную культуру і жыццё грамадства, кожнага з нас.

Якасць хлеба і музыкі, асабістых і грамадскіх адносін грунтуецца на ведах і рэалізацыі каштоўнасцей, якія мае чалавецтва. Асабіста я, напрыклад, жадаю маім дзецям і ўсім людзям быць разумнымі, прыгожымі.

Ад імя работнікаў культуры раёна хацелася б павіншаваць вучняў, студэнтаў і ўсіх касцюкаўчан з цудоўным святам – Днём ведаў. У якасці падарунка ўстановы культуры прапаноўваюць 1 верасня наступныя мерапрыемствы.

Раённая бібліятэка правядзе гульню-віктарыну пад назвай "На планетах ведаў". Пачатак у 12 гадзін.

Дзіцячая бібліятэка падрыхтавала літаратурна-гульнявую праграму "Казка ў першы школьны дзень". Пачатак у 14 гадзін.

Раённы цэнтр культуры праводзіць у гарадскіх школах дзіцячыя святы “Падарожжа ў краіну ведаў”.

У кінатэатры "Юбілейны" ў 15 гадзін можна будзе паглядзець мультсерыял, а ў 16 гадзін – дзіцячую кінакамедыю ( усё бясплатна).

Усе сельскія бібліятэкі правядуць культурна-масавыя і літаратурна-пазнавальныя мерапрыемствы.

Клубныя ўстановы раёна 1 верасня арганізуюць бясплатныя дыскатэкі для школьнікаў.

**Мікалай ТЫМАНЮК,**
**загадчык аддзела культуры райвыканкама.**

## Захаванне маёмасці – абавязак кіраўнікоў

Бадай, няма такіх людзей, якія раўнадушна адносяцца да хлеба. Менавіта таму многія камбайнеры з гаспадарскай заклапочанасцю ўступаюць у святую бітву за ўраджай, будучы духмяны бохан на нашым стале. Яны намалочваюць сотні тон зерня, якому няма цаны, няма замянніка.

Ёсць, праўда, нераўнадушнасць іншага парадку. Некаторыя, назіраючы за патокам паступаючага з поля збожжа, не могуць з ім "размінуцца". Шукаюць усялякія варыянты, каб пажывіцца прадукцыяй, прычым, бясплатна. Так паўтараецца кожнае жніво. Не з’яўляецца выключэннем гэты год. Адна толькі асаблівасць: выпадкі расцягвання калгаснага дабра пачасціліся.

Гэта пацвердзілася ў выніку правядзення аператыўных і прафілактычных мерапрыемстваў на другім этапе аперацыі “Аграрнік” — “Ураджай”. З 1 па 15 жніўня г.г. аддзелам унутраных спраў райвыканкама выяўлены шэраг парушэнняў працоўнай дысцыпліны, заканадаўства аб прававым становішчы іншаземных грамадзян на тэрыторыі рэспублікі. Спынена 9 крадзяжоў прадукцыі новага ўраджаю ў некаторых гаспадарках раёна...

10 жніўня калгаснік калгаса “Парыжская камуна” А. Міхайлаў спрабаваў вынесці з фермы 10 кілаграмаў збожжа. У той жа дзень электрык гэтай гаспадаркі А. Первункоў прыхапіў са збожжавага тока ў Студзянцы амаль пуд зерня. Крыху больш сціплы апетыт у палявода "Парыжскай камуны" В. Уласенкі. Ён прысвоіў 5 кілаграмаў жыта.

Далей статыстыка напаўняецца ёмістымі лічбамі. Слесар калгаса "Прагрэс" С. Чарноў “пазычыў” 14 кілаграмаў адборнага жытца. Пенсіянерка з Смолькаўскай Буды Е. Малашанка "ўпалявала" 25 кілаграмаў пшаніцы. Яе пераўзышлі злодзеі з "Новага быту" Г. Лебедзева і І. Дзехцярэнка. Кожны з іх украў па 36 кілаграмаў жыта.

А як наконт мукі? Яна таксама ўяўляе каштоўнасць і вельмі вабіць. Даярка з “Прагрэса” А. Бурака “узяла” 15 кілаграмаў канцэнтратаў. Непрацуючая жыхарка паселка Новыя Саматэвічы Н. Гнядая паўтарыла гэты вынік.

Лета, безумоўна, гарачы перыяд. Для некаторых “байцоў пярэдняга краю” – надзвычай спякотны. 7 жніўня на рабочым месцы знаходзіўся ў нецвярозым стане загадчык фермы калгаса "Бароньki" В. Міроненка. Праз чатыры дні выявілася, што функцыі загадчыка склада "пад мухай" выконваў у калгасе "Смолькі" П. Якушкін. У прыўзнятым настроі пад уздзеяннем алкаголю кіраваў галіною раслінаводства галоўны аграном гэтай гаспадаркі Н. Марусаў.

Можна прывесці яшчэ шмат іншых "свежых" фактаў крадзяжу і п'янства. Так, неаднаразова затрымліваўся п'яным за рулём бензавоза вадзіцель калгаса імя Карла Маркса –Р. Сергіенка. Урэшце машына пастаўлена на штрафстаянку. Увогуле за некалькі дзён выяўлена 25 падагрэтых спіртным вадзіцеляў.

Суцэльныя п'янкі назіраліся ў апошнія дні ў калгасах "Дуброва", "Смолькі", "Бароньki", “Кранштат", "Новы быт" і некаторых іншых гаспадарках. Распаўсюджанымі сталі крадзяжы калгаснага малака з ферм.

Выклікае здзіўленне пазіцыя некаторых кіраўнікоў калгасаў, якія не праяўляюць належнай актыўнасці ў рабоце з людзьмі. Яны спадзяюцца толькі на ўмяшанне ў справу праваахоўных органаў. А вось грамадскае ўздзеянне на нядбайных, несумленных і п'яніц аслаблена. Роля ж кіраўніка калектыву ў выхаванні падначаленых – першачарговая.

Хацелася б пашырыць аналіз крыміногеннай абстаноўкі. Нагадаем, што на кантролі ў райвыканкаме знаходзіцца рашэнне “Аб стане захаванасці ўласнасці ў аграпрамысловым комплексе". З мэтай яго выканання аддзел унутраных спраў правёў комплекс папераджальна-прафілактычных мерапрыемстваў. Яны накіраваны на недапушчэнне крадзяжу з месцаў захавання тавара-матэрыяльных каштоўнасцей у калгасах. Абследавана 45 складаў для збожжа і запчастак, гаруча-змазачных матэрыялаў, 30 ферм. Правяралася арганізацыя вартавой аховы на гэтых аб'ектах. Вывады былі несуцяшальныя. У адрас старшынь калгасаў мы накіравалі 15 прадстаўленняў з указаннем канкрэтных тэрмінаў ухілення недахопаў. Аднак, як паказвае абстаноўка, многія кіраўнікі не прынялі мер па выкананню названага вышэй рашэння. За мінулы перыяд года зарэгістравана 28 злачынстваў, учыненых у калгасах. Агульныя страты ў выніку склалі звыш 8 мільёнаў рублёў.

Назаву толькі асобныя выпадкі. А. Напрэенка, В. Гладкоў, В. Бяляеў укралі 8 рулонаў сена з поля калгаса “Кранштат". Начальнік вартавой аховы калгаса "Новы быт", раней судзімы С. Ганчароў сумесна з вартаўніком, таксама судзімым, сцягнулі з машыннага двара каробку перамены перадач аўтамашыны "КАМАЗ". А. Сутула звёў 5 коней з фермы Жаркі гэтага калгаса. Даглядчык жывёлы А. Чарняцоў украў двух бычкоў у калгасе “Парыжская камуна". Ноччу ў жніўні г.г. неўстаноўленыя злодзеі ўкралі новы трактар МТЗ-82 калгаса імя Калініна. Гэта ўжо другі выпадак крадзяжу тэхнікі ў гаспадарцы.

Сказанае толькі пацвярджае, што кіраўнікі калгасаў недастаткова ўдзяляюць увагі захаванасці калгаснай маёмасці. У тым жа калгасе імя Калініна ў момант угону трактара вартаўніком працаваў раней судзімы І. Рашатнёў. Вароты машыннага двара паламаныя, не закрытыя на замок. Журнал уліку руху транспарту не вёўся. Аналагічная сітуацыя ў калгасах "Праўда", "Ленінскі шлях", “Забычанне", "Радзіма", "Смолькі", "Кранштат", "Бароньki".

Застаецца нізкай працоўная дысцыпліна сярод спецыялістаў і калгаснікаў. За 7 месяцаў года да адміністрацыйнай адказнасці за знаходжанне на рабоце ў нецвярозым стане прыцягнута 6 пасадавых асоб і 63 радавыя калгаснікі.

Вялікая праблема патрабуе адэкватных намаганняў па яе выкараненню.

**Яўген КАСТРОЎ,**
**начальнік аддзела ўнутраных спраў райвыканкама.**

*Михаил МОТЯНКО*

### УЧИТЕЛЬНИЦА

Поседевшей, серебристой прядью
Волосы упали на висок,
Пристально склонившись над
тетрадью...
Новый начинается урок.
Во дворе резвятся бойко птицы,
Тополя не шелохнут листвой.
И встают, как книжные страницы,
Годы жизни Вашей трудовой.
Не одна упрямая морщинка
На лице украдкой улеглась...
И за это мать, гордясь за сына,
Вам спасибо скажет, поклонясь.

# ПРОГРАММА ТЕЛЕВИДЕНИЯ

## ПОНЕДЕЛЬНИК, 28 августа

### БТ

6.30, 7.10 Доброе утро, Беларусь!
7.00, 9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 17.00, 19.00, 0.20 Новости
8.00 Резонанс.
9.10 Потребительская корзина.
9.25 «Сегодня с вами...»
9.50 Здоровье. Тележурнал.
10.15 Мультфильм.
10.35 Теленавигатор.
11.10 «Все мои дети».
11.55 «Судьба человека».
12.25 Музыкальный салон.
14.30 «Просто жизнь».
15.10 «Мой друг Арнольд». Телесериал.
15.40 Мультфильм «Телетун».
16.05 «А музыка звучит...»
16.35 Авто-парк.
16.45 Премьера песни.
17.10 Столица.
17.40 Док. экран. «Зубр».
18.00 Сериал «Сити».
18.44 МСН.
19.20 Политические диалоги.
19.50 «Все мои дети».
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.35 Событие.
21.50 Боевик Люка Бессона «Пятый элемент».
23.50 Третий тайм.
0.30 Криминальная хроника.

### ОРТ

13.30 «Вместе».
14.00, 17.00, 22.25 Новости.
14.20 Мультсериал.
14.45 Звездный час.
15.10...До шестнадцати и старше.
15.40 Вкусные истории.
15.55 «Вавилонская башня».
17.30 Банка комиксов.
18.05 Худ. фильм «Белый ворон».
20.00 Время.
20.45 «Тысячелетие».
21.35 Эдвард Радзинский. «Загадки Сталина». 1 ч.
22.40 «Майк Хаммер»: «Семь мертвых глаз».
23.35 «Паранормальные явления. Закрытое досье».

### РОССИЯ

7.00, 8.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00 Вести.
7.30 Семейные новости.
7.40, 8.20 Доброе утро, Россия.
8.15 Черным по белому.
8.35 Мультсериал.
9.00 «Мануэлла».
10.30 «Санта-Барбара».
16.30 Сам себе режиссер.
17.00 «Графиня Де Монсоро».
18.00 «История любви».
19.30 Подробности.
19.55 «Следствие ведут знатоки».
21.25 Премьера док. фильма «Кавказский полумесяц».
22.30 После «Вестей».
22.40 «Следствие ведут знатоки».
0.15 Дежурная часть.

### «МОГИЛЕВ-1» НА БТ

13.10 Пунктир.
13.40 «Скарбы». «Горкі. Вандроўка па горадзе».
13.55 Видеодром.
14.15 Мультфильм.

## ВТОРНИК, 29 августа

### БТ

6.30, 7.10 Доброе утро, Беларусь!
7.00, 9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 17.00, 19.00, 23.00 Новости.
8.10 Политические диалоги.
8.40 Потребительская корзина.
9.15 Док.фильм «Жизнь в песчаных дюнах».
10.05 «На волне взаимопонимания».
11.10 «Все мои дети».
11.55 «Пятруоь Бровка. Голос сердца». Док.фильм.
12.25 Третий тайм.
13.10 «Двое на качелях». Спектакль.
14.10 Бездельник.
14.35 Туробъектив.
15.15 «Мой друг Арнольд».
15.45 Фильмы братьев Люмьер.
15.55 Международный фольклорный фестиваль «Жыцень».
17.15 Док. экран. «По дорогам «Слова о полку Игореве». «Новогрудок. Читая Мицкевича».
17.55 Сериал «Сити».
18.44 МСН.
19.20 «Телевизионный Дом кино».
19.55 «Все мои дети».
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.35 Событие.
21.50, 23.10 Опера «Травиата» в постановке театра «Ла Скала».
0.20 Криминальная хроника.

### ОРТ

13.30 «Вместе».
14.00, 17.00, 22.25 Новости.
14.20 Мультсериал.
14.45 Царь горы.
15.10...До шестнадцати и старше.
15.40 Вкусные истории.
15.55 «Вавилонская башня».
17.30 Драма «Незваный друг».
19.15 Жди меня.
20.00 Время.
20.45 «Полная безопасность».
21.40 Эдвард Радзинский. «Загадки Сталина». 2 ч.
22.40 А.Гордон. «Собрание заблуждений».
23.10 Триллер «Темные небеса».

### РОССИЯ

7.00, 8.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00 Вести.
7.30 Семейные новости.
7.40, 8.20 Доброе утро, Россия.
8.15 Черным по белому.
8.35 Мультсериал.
9.00 «Мануэлла».
10.30 «Санта-Барбара».
16.30 Сам себе режиссер.
17.00 «Графиня Де Монсоро».
18.00 «История любви».
19.30 Подробности.
19.55 Худ. фильм «Есть о чем поговорить».
22.30 После «Вестей».
22.40 Мужчина и женщина.
23.30 Последний сеанс. «Ангелы с небес».
1.15 «Круглая дата». В.Андреев — 70 лет.
1.45 Дежурная часть.

## СРЕДА, 30 августа

### БТ

6.30, 7.10 Доброе утро, Беларусь!
7.00, 9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 17.00, 19.00, 23.55 Новости.
8.15 «Сегодня с вами...»
8.40 Потребительская корзина.
9.10 Мультфильмы.
9.55 Око.
10.15 Столичный хит.
11.15 «Все мои дети».
12.05 Цикл «Древо жизни».
12.30 Компьютерный полигон.
14.25 Ток-шоу «Карамболь».
15.15 «Мой друг Арнольд». Телесериал.
15.45 Видимо-невидимо.
17.10 Док. экран. «София Полоцкая».
17.25 «Макаенка,9».
17.55 «Сити».
18.44 МСН.
19.15 Лотерея «Толока».
19.25 «Наши песни».
19.55 «Все мои дети».
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.35 Событие.
21.50 «Король игроков». Худ. фильм.
23.25 Королевская охота.
0.05 Криминальная хроника.

### ОРТ

8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 22.30 Новости.
8.20 «Вавилонская башня».
9.20 Пока все дома.
9.55 Жди меня.
10.35 «Песня года».
13.30 «Вместе».
14.20 Мультсериал.
14.45 Зов джунглей.
15.10...До шестнадцати и старше.
15.40 Вкусные истории.
15.55 «Вавилонская башня».
17.30 Маски-шоу.
18.05 Погода.
18.10 Худ. фильм «Крамер против Крамера».
20.00 Время.
20.45 «Полная безопасность».
21.40 Эдвард Радзинский. «Загадки Сталина». 3 ч.
22.45 «Цивилизация».
23.15 «Темные небеса».

### РОССИЯ

7.00, 8.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00 Вести.
7.30 Семейные новости.
7.40, 8.20 Доброе утро, Россия.
8.15 Черным по белому.
8.35 Мультсериал.
9.00 «Мануэлла».
10.30 «Санта-Барбара».
16.30 Сам себе режиссер.
17.00 «Графиня Де Монсоро».
18.00 «История любви».
19.30 Подробности.
19.55 Комедия «Дэйв».
22.30 После «Вестей».
22.40 Премьера док. фильма «И дольше века...» Чингиз Айтматов.
23.25 Крим. драма «Преступная совесть».
1.10 Дежурная часть.

### «МОГИЛЕВ-1» НА БТ

13.15 Тяжелый день.
13.35 Бобруйский вариант.
13.55 Мультфильм.

## ЧЕТВЕРГ, 31 августа

### БТ

6.30, 7.10 Доброе утро, Беларусь!
7.00, 9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 17.00, 19.00, 23.15 Новости.
8.15 Сельчане.
8.40 Потребительская корзина.
9.10 Королевская охота.
9.40 Мультфильмы.
10.00 Худ. фильмы.
11.10 «Все мои дети».
11.55 Цикл «Древо жизни».
12.25 Зорная ростань.
14.20 «Дикая природа».
15.10 «Мой друг Арнольд».
15.40 «Все мы родом из детства».
16.35 Фестиваль цирков.
17.10 Арсенал.
17.35 Усадьба.
18.00 Сериал «Сити».
18.48 МСН.
19.15 «Премьер-парад».
19.40 Фильмы братьев Люмьер.
19.55 «Все мои дети».
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.35 Событие.
21.50 «Король игроков». Худ. фильм.
23.00 Клуб молодой семьи.
23.25 Криминальная хроника.

### ОРТ

8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 22.25 Новости.
8.20 «Вавилонская башня».
9.20 Р.Казакова в программе «Женские истории».
9.50 Человек и закон.
10.30 «Песня года».
13.30 «Вместе».
14.20 Мультсериал.
14.45 «100%».
15.10...До шестнадцати и старше.
15.40 Вкусные истории.
15.55 «Вавилонская башня».
17.25 «Каламбур».
18.05 Худ. фильм «Большой капкан, или Соло для кошки при полной Луне».
20.00 Время.
20.45 «Полная безопасность».
21.40 Эдвард Радзинский. «Загадки Сталина». 4 ч.
22.40 «Посмотри».
23.10 «Темные небеса».

### РОССИЯ

7.00, 8.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00 Вести.
7.30 Семейные новости.
7.40, 8.20 Доброе утро, Россия.
8.15 Черным по белому.
8.35 Мультсериал.
9.00 «Мануэлла».
10.30 «Санта-Барбара».
16.30 Сам себе режиссер.
17.00 «Графиня Де Монсоро».
18.00 «История любви».
19.30 Подробности.
19.55 «Классный час». Концерт.
22.30 После «Вестей».
22.40 Худ. фильм «Смерть на деньгах».
0.20 Горячая десятка.
1.15 Дежурная часть.

### «МОГИЛЕВ-1» НА БТ

13.10 «Завтра в школу». Прямая линия.

## ПЯТНИЦА, 1 сентября

### БТ

6.30, 7.10 Доброе утро, Беларусь!
7.00, 9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 17.45, 19.00, 23.30 Новости.
8.10 Столица.
8.40 Потребительская корзина.
9.10 Мультфильм.
9.25 «Таинственный остров». Худ.фильм.
11.10 «Все мои дети».
11.55 Док.фильм.
12.15 Сделано в Беларуси.
12.30 Усадьба.
13.10 «Гонки по вертикали». Худ.фильм.
15.10 «Мой друг Арнольд».
15.40 «Первый класс».
16.10 Регион.
16.35 Мультфильмы.
16.55 Футбол. Отборочный матч чемпионата мира. Беларусь — Уэльс.
19.20 Бездельник.
19.50 «Все мои дети».
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.35 Событие.
21.50 Худ.фильм «Доживем до понедельника».
23.40 Криминальная хроника.

### ОРТ

8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 22.25 Новости.
8.20 «Вавилонская башня».
9.20 Смехопанорама.
9.50 «Серебряный шар».
10.30 «Песня года».
13.30 «Вместе».
14.20 «Новые похождения кота в сапогах».
15.45 Вкусные истории.
15.55 «Вавилонская башня».
17.30 Джентльмен-шоу.
18.05 Человек и закон.
18.50 Поле чудес.
20.00 Время.
20.45 Худ. фильм «Прощай, полицейский».
22.25 «Андрей Петров: мелодии любимых фильмов».
23.40 Детектив «Мужчина в коричневом костюме».

### РОССИЯ

7.00, 8.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00 Вести.
7.30 Семейные новости.
7.40, 8.20 Доброе утро, Россия.
8.15 Черным по белому.
8.35 Мультфильмы.
9.00 «Мануэлла».
10.30 «Санта-Барбара».
16.30 Сам себе режиссер.
17.00 Почта РТР.
17.10 Мужчина и женщина.
18.00 «История любви».
19.30 Подробности.
19.55 Наше дело. «И снова школьная реформа...»
20.55 «Аншлаг» и К°.
22.30 После «Вестей».
22.40 Худ. фильм «Возмездие».
0.20 Дежурная часть.

### «МОГИЛЕВ-1» НА БТ

14.20 «Откровенно...»
14.40 «Школьный учебник».

## СУББОТА, 2 сентября

### БТ

7.00 Доброе утро, Беларусь!
8.00 Сфера.
8.30 Усадьба.
9.00, 15.00, 19.00 Новости.
9.15 Потребительская корзина.
9.30 «Сегодня с вами...»
9.55 Мультфильм «Телетун».
10.15 «Индаба».
10.40 «Все нормально, мама!»
11.10 «Одиссея команды Кухто». Телеигра.
11.40 Компьютерный полигон.
12.00 Вершина мира.
12.25 Бон тон.
13.00 «На гребне волны».
13.45 Фестиваль цирков.
14.05 МСН.
14.20 Сделано в Беларуси.
14.35 Познай себя.
15.10 Олимп.
15.40 Земляки.
16.40 Фильмы братьев Люмьер.
16.55 Футбол. Беларусь — Уэльс.
19.15 Из достоверных источников.
19.35 КВН.
21.00 Панорама.
21.50 «Христофор».
22.10 Комедия «Ужин с придурком».
23.30 Премьера песни.
23.40 Видимо-невидимо.

### ОРТ

7.00, 9.00, 14.00, 17.00 Новости.
7.10 Слово пастыря. Митрополит Кирилл.
7.25 «Все путешествия команды Кусто».
8.25 Играй, гармонь любимая!
9.10 Смак.
9.35 Док. детектив.
10.10 «С легким паром!»
10.40 Утренняя почта.
11.10 Худ. фильм «Воры в законе».
13.00 В мире животных.
13.45 История одного шедевра. Русский музей.
14.15 «Горец».
15.15 Седьмое чувство.
16.00 «Другая жизнь».
17.15 М.Эскина в программе «Женские истории».
17.50 «Ералаш».
18.00 Комедия «Трое мужчин и младенец».
20.00 Программа С. Доренко.
21.00 Футбол. Сборные Швейцарии и России.
23.15 Боевик «Нирвана».

### РОССИЯ

6.30 Диалоги о рыбалке.
7.00 Фильм для детей «4.0 в пользу Танечки».
8.30 Мультфильм.
9.00 Доброе утро, страна.
9.45 «Сто к одному».
10.33 Промо.
10.35 Сам себе режиссер.
11.05 «Друзья-II».
11.35 Золотой ключ.
11.55 «Комиссар Рекс».
13.00, 19.00 Вести.
13.20 Комедия «Приходите завтра».
15.00 «Международная панорама» с А. Гурновым.
15.55 «Пресс-клуб».
17.00 Моя семья.
18.00 «Два рояля».
19.30 «Городок. Ретро».
20.10 Худ. фильм «Факультет».
22.10 Премьера фильма А. Сокурова «Молох».
0.25 «Имена». Док. фильм.

## ВОСКРЕСЕНЬЕ, 3 сентября

### БТ

7.00 Доброе утро, Беларусь!
7.50 А.Мдивани. Симфония N 6 «Полоцкие письмена».
8.30 Здоровье.
9.00, 15.00 Новости.
9.10 Потребительская корзина.
9.25 Мультиклуб.
9.55 «Индаба».
10.20 Туробъектив.
10.40 «Все нормально, мама!»
11.10 «Премьер-парад».
11.35 Арсенал.
12.00 Марсово поле.
12.20 Зорная ростань.
12.50 «На волне взаимопонимания».
13.30 «На гребне волны».
14.15 МСН.
14.30 Сельчане.
15.15 «Сегодня с вами...»
15.40 «Инна Афанасьева и ее друзья». Концерт.
16.35 Драма «Я, Франциск Скорина».
18.10 Теленавигатор.
18.30 Банка комиксов.
19.00 «Судьба человека».
19.30 Стадион.
20.00 Резонанс.
20.55 Ток-шоу «Карамболь».
21.25 Комедия «Любовный узел».
22.50 Мини-футбол. Беларусь — Латвия. 2-й тайм.
23.35 Акколада.
0.05 Авто-парк.

### ОРТ

7.00, 9.00, 14.00, 17.00 Новости.
7.10 Армейский магазин.
7.40 «Дисней-клуб».
8.10 Утренняя звезда.
9.10 «Непутевые заметки».
9.30 Пока все дома.
10.05 «Альф».
10.35 Здоровье.
11.05 Худ. фильм «По собственному желанию».
12.30 Фильм «Трижды о любви».
13.00 Клуб путешественников.
13.45 Русский музей.
14.10 «Горец».
15.00 Возможно все!
15.20 «101 далматинец», «Новые приключения Винни-Пуха».
16.15 Андрей Петров в программе Э.Рязанова.
17.15 Смехопанорама.
17.45 Застава Чарли Чаплина.
18.00 «Ералаш».
18.10 Худ. фильм «Старое ружье».
20.00 Время.
21.00 КВН-2000.
22.30 Время футбола.
23.15 Худ. фильм «Король и я».

### РОССИЯ

7.00 Мультфильмы.
7.15 «Устами младенца».
7.45 Папа, мама, я — спортивная семья.
8.30 Почта РТР.
9.00 Доброе утро, страна.
9.30 «Аншлаг» и К°.
10.30 «Городок».
11.00 Русское лото.
11.40 Фильм-сказка «Золотой гусь».
13.00 Вести.
13.20 Диалоги о животных.
14.15 Планета Земля.
15.15 Детектив «Тайна виллы».
16.55 Сам себе режиссер.
17.25 Детектив «Маросейка, 12».
19.00 «Зеркало».
20.00 Комедия «Гений».
22.55 Боевик «Безопасный дом».

# Цудоўны Спас у Журбіне

Я жыву ў горадзе Магілёве. Прыехала да бабулі ў госці і трапіла на свята "Спас", якое адзначалася ў клубе вёскі Журбін. Яго адкрыў месяц жнівень, ролю якога выканала загадчыца бібліятэкі-клуба Вера Піцянова. Яна расказала прыкметы, прыказкі і прымаўкі, звязаныя з гэтым месяцам. Потым жнівень запрасіў у госці трох Спасаў "Мядовіка", "Яблычнага" і "Хлебнага". Ролі іх выканалі Ігар Карытка, Іван Старычкоў і Надзея Даніленка. Яны частавалі прысутных сваімі дарамі – яблыкамі, грушамі, караваем. Потым ансамбль "Старушкі-весялушкі" выканаў жартоўныя народныя песні на беларускай мове. Моладзь з вёскі Сялецкае, якая прысутнічала на свяце, уручыла арганізатарам мерапрыемства кветкі. Усе засталіся задаволены арганізацыяй адпачынку ў гэты выхадны дзень.

Як цудоўна, што ў вёсцы Журбін не забылі народных традыцый і абрадаў. Гэтыя святы адзначаюцца вясёлымі песнямі на роднай мове. Удзельнікі мастацкай самадзейнасці вёскі хочуць, каб малодшае пакаленне ведала традыцыі і абрады нашага народа. І гэта цудоўна!

**Каця ЦЯЛЯТНІКАВА,**
**вучаніца СШ № 33 г. Магілёва.**

## *Поздравляем!*

***Сердечно поздравляем с 65-летием со дня рождения любимую мамочку, бабушку***

***МАЛАШЕНКО***
***Раису Яковлевну***

*Спасибо, родная, что ты есть у нас,*
*Что видим и слышим тебя каждый час,*
*За добрую душу и доброе слово,*
*За то, что не видели в жизни плохого,*
*Желаем тебе, наш родной человек*
*Чтоб был бесконечным твой жизненный век.*

***Любящие тебя муж, дочь, сыновья, зять, невестки, внуки.***

ХХХ

*Сердечно поздравляем с 50-летием со дня рождения*

***РАДЧЕНКО***
***Валентину Николаевну***

*С днём рожденья поздравляем,*
*С самым лучшим днём!*
*Много счастья мы желаем на веку твоём.*
*Пусть здоровье будет вечным спутником твоим,*
*Ну, а счастье – самым крепким, прочным и земным.*
*В работе пусть сопутствует удача,*
*В семье царят спокойствие и лад,*
*Пусть будет так, а не иначе*
*И много-много лет подряд.*

***Коллектив автобазы облпотребсоюза.***

ХХХ

*От всего сердца поздравляем с 80-летием со дня рождения*

***МОИСЕЕНКО***
***Лидию Сергеевну***

*Мамочка моя родная, любимая,*
*Бабушка славная, незаменимая!*
*Эти нежные строки тебе,*
*Самой милой и самой красивой,*
*Самой доброй на этой земле.*
*Ты в любую минуту поможешь,*
*Свою руку протянешь в беде,*
*Так спасибо тебе, дорогая,*
*Что такая ты есть на земле.*
*Здоровья тебе крепкого, долгих лет жизни, родная.*

***Дочь Надежда, внуки Ольга, Андрей.***

ХХХ

*Горячо и сердечно поздравляем с 55-летием со дня рождения*

***КОРПАЧЁВА***
***Леонида Ивановича***

*Пусть жизнь улыбается вечно тебе,*
*Пусть мимо проходят невзгоды.*
*Здоровья и счастья желаем тебе*
*На долгие-долгие годы.*

***С уважением сын Виктор, дочь Галина, невестка Светлана, внучка Виктория.***

*На жыццёвых скрыжаваннях*

# Запозненае прызнанне

Тацццяна прачнулася рана. У хаце было яшчэ прыцемна і ёй стала жахліва ўзнімацца з ложка. Дзяўчына мацней заплюшчыла вочы і нацягнула на галаву коўдру. "Божухна, як жа нам жыць цяпер?" — задавала ў думках яна пытанне сабе і не знаходзіла на яго адказу. Галава, як кажуць, раскалвалася. Чым суцешыць сябе, калі рушылася самая, як ёй здавалася, моцная крэпасць.

Учора пахавалі яе маці. Цяпер 17-гадовая Тацццяна засталася з малодшым братам.

Яна толькі здала выпускныя экзамены ў школе. Марыла пра вучобу ў інстытуце, бо ў атэстаце стаяла толькі "добра" і "выдатна" па ўсіх прадметах.

Бацьку Тацццяна зусім не помніла — ён загінуў на вайне.

Абгарнуўшы чорную хустку, Тацццяна разбудзіла Валодзю, прымусіла паснедаць, напомніла пра яго штодзённыя звычайныя абавязкі, а сама накіравалася да калгаснай канторы.

На парозе ёй сустрэўся старшыня.

—Я да вас, Іван Пятровіч, — звярнулася да яго Тацццяна. -- Дазвольце мне даглядаць матуліну групу кароў. Самі разумееце, ехаць вучыцца я не магу. Няма на каго пакінуць брата, ды і хто мяне будзе вучыць?

Прайшоўшы вайну старшыня глядзеў на Тацццяну, якую чорная хустка зрабіла без пары дарослай.

— Добра, я згодзен, паспрабуй. Калі не атрымаецца, не хвалюйся, знойдзем табе іншую справу, — прамовіў ён.

Так пачалося яе самастойнае дарослае жыццё, ужо далёка не з дзіцячымі клопатамі.

Прайшоў месяц. Сяброўкі збіраліся ехаць паступаць вучыцца, а Тацццяна спяшалася на ферму, дзе яе чакалі каровы. Яна старалася, каб не падалі надоі, імкнулася добра пакарміць жывёлу. Брыгадзір часта хваліў самую маладую даярку на ферме, а Тацццяна толькі апускала вочы долу.

Аднойчы вечарам, вяртаючыся з фермы, Тацццяна заўважыла, як да яе наблізілася постаць.

— Хто гэта? — спалохана запыталася дзяўчына і хацела ўжо бегчы назад. Але знаёмы голас вяскоўца спыніў яе:

— Таня, гэта я, не палохайся.

Да дому заставалася ісці зусім мала. І гэту адлегласць яны пераадолелі разам.

Сон у гэту ноч не ішоў да Тані. Яна ляжала ў ложку з адкрытымі вачыма і думала: чаму гэта раптам настаўніцкі сын Мікалай, які ўжо тры гады працуе, вырашыў сустрэць яе амаль апоўначы.

На наступны дзень яе не пакідалі думкі пра Мікалая. Яна лічыла яго даволі дарослым, каб пакахаць. Хлопец адслужыў у арміі, працаваў, жыў больш-менш у дастатку. Бацькі – настаўнікі былі паважанымі ў вёсцы, і кожная б дзяўчына не супраць пасябраваць з Мікалаем.

Вечарам, калі каровы ўжо стаялі ў хляву, Тацццяна ўзяла вядро і накіравалася да крайняй, каб даіць. Размясцілася на ўслончыку пазручней і тугія струмені малака ўдарылі аб дно вядра. Так лоўка і спрытна працавала дзяўчына рукамі, што ў імгненне вока малако прыбывала ў вядры. І раптам Тацццяна пачула, што ў другім канцы хлява забарабаніла малако ў пустую даёнку. "Няўжо маці прыйшла мне дапамагчы?" – адразу мільганула думка. Аднак сама баялася зрушыцца з месца. І раптам пачула голас Мікалая:

— Стой, любая, стой! — звяртаўся той да каровы, якую сама даярка старалася абслужыць апошняй, бо тая магла незадаволена перавярнуць вядро нагой.

Дзяўчына падаіла сваю карову, аднак не магла ўзняцца з услончыка, каб занесці малако. "Чаму, — думала Тацццяна, — Мікалай так паступіў?" Ёй было няёмка, сорамна.

З дойкай управіліся раней звычайнага. Тацццяна мыла посуд, Мікалай падносіў ваду. Дадому ішлі разам, размаўлялі пра звычайныя вясковыя справы, не кранаючы сваіх адносін. Каля брамкі Тацццяна заспяшалася дамоў, але Мікалай пяшчотна абняў яе за плечы і сказаў:

—Запрасі хаця зайсці ў дом.

Валодзя спаў у суседнім пакоі. Тацццяна з Мікалаем сядзелі насупраць печы за сталом, размаўлялі.

— На рабоце сёння затрымаўся. Не паспеў нават павячэраць — спяшаўся дапамагчы табе. У цябе не знойдзецца чаго-небудзь перакусіць, — раптам проста прапанаваў ён.

Разам з Мікалаем яны елі сала, агуркі, бульбу з печы, запілі малаком.

У той вечар Мікалай не пайшоў дадому. Раніцай, калі Тацццяна пачала збірацца на ферму, ён разбудзіў Валодзю, дапамог таму ўправіцца па гаспадарцы. Мікалай паспяшаўся перад работай папярэдзіць бацькоў, што ён застанецца жыць у Тацццяны, папрасіў маці сабраць яму неабходныя рэчы.

Гаспадар аказаўся, хаця і малады, але працавіты, клапатлівы. Не крыўдзілі і Валодзю, які праз два гады закончыў школу і паступіў вучыцца ў сельскагаспадарчы тэхнікум. А ў маладой сям'і нарадзілася дачушка Наташа, а праз паўтара года і сын. Бацькі Мікалая не маглі нарадавацца ўнукамі.

Аднойчы, атрымаўшы добрае заахвочванне па выніках работы за год, Мікалай і Тацццяна вырашылі выпісаць у лясгасе матэрыялу для будаўніцтва новага дома. І як прыйшла вясна, ўзяліся за работу. Дапамагалі родзічы, брат Тацццяны – Валодзя. Праз тры гады сям'я адсвяткавала наваселле. Але праз некаторы час цяжка захварэў гаспадар. Што толькі не рабіла Тацццяна, куды не вазіла, дзе не шукала лекараў, але ў 35 гадоў з двума дзецьмі засталася ўдавою.

...Сустрэча з Пятром адбылася зусім выпадкова. Ён працаваў трактарыстам у суседняй гаспадарцы. Тры гады прайшло з таго часу, як памерла яго жонка. Пётр адзін выхоўваў траіх дзяцей. Неяк зайшоў у вясковы магазін, стаў цікавіцца абуткам для малых.

— Вось гэтыя боты хацеў бы, каб прымерыла мая дачка. Ці можаце вы пакінуць да наступнага дня? — звярнуўся ён да прадаўца.

— Як для такога клапатлівага бацькі не пакінуць! — прамовіла адна з жанчын, што стаялі ў чарзе. — Мой, напэўна, не ведае, у якім класе дзеці вучацца, а не тое, што размер абутку.

— Мне б такога гаспадара,— выказала пажаданне другая.

— Ды і я ўжо не супраць пабыць за жонкай, як за каменнай сцяной, — усміхнуўся ў адказ Пётр.

— Тады прыглядзіся, у нас вось ёсць маладая ўдава, — павярнулася пакупніца да Тацццяны, якая таксама стаяла ў чарзе.

— Таня, глядзі, які мужчына...

Аднак Тацццяна рэзка абарвала яе размову:

— Аб чым ты? — а вочы яе напоўніліся слязамі.

На наступны дзень Пётр з дачкой завітаў да Тацццяны ў госці.

Доўга вагалася жанчына, перш чым дала згоду стаць жонкай удаўца.

Дзеці адразу знайшлі паміж сабой агульную мову, пасябравалі.. Неяк вечарам, калі была дагледжана калгасная і дамашняя жывёла, усе селі за стол вячэраць. Не хапала толькі самага маленькага – Віталіка. Дзеці кінуліся шукаць яго ў доме, на вуліцы. Наступіў вечар, а малога не маглі знайсці. І тут да Тацццяны падышла суседка і паведаміла:

— Схаваўся ваш малы за кустом бэзу, што каля Іванавага хлява.

Пётр адразу хацеў ісці туды са словамі абурэння, адламаў з бярозы галінку.

— Пачакай, — спыніла яго Тацццяна, — я забараняю табе біць дзіцяці. Я сваіх ніколі не біла і ты гэтага не рабі.

За Віталікам Тацццяна пайшла адна. Хлопчык сядзеў, прытуліўшыся да хлява, падціснуўшы пад сябе ногі.

— Што ж гэта ты з дому пайшоў, Віталя? Хто пакрыўдзіў цябе, мой хлопчык?

Тацццяна імкнулася высветліць прычыну такіх паводзін прыёмнага сына, аднак ён не адказваў на яе пытанне, ціха ішоў побач, трымаючыся за руку.

З таго дня амаль кожны вечар Віталь нібы раствараўся – сыходзіў з дому. Як перажывала Тацццяна, што адзін сын Пятра не прызнае яе. Яна была ласкавай, пяшчотнай, роўнай з усімі дзецьмі. Аднолькава роднымі сталі для жанчыны і прыёмныя. Аднолькава балела яе сэрца за кожнага. Але больш увагі аказвала яна малодшанькаму –Віталіку. Але той гэтага зусім не хацеў заўважаць.

Старэйшыя дзеці выраслі, закончылі школу, паехалі вучыцца. Кожны год у верасні выпраўляла Тацццяна сына ці дачку на вучобу. Прыйшла чарга і да Віталіка. Ён паступіў у вучылішча, дзе рыхтавалі майстраў па рамонту халадзільных установак. Тацццяна сабрала яму ў сумку дамашніх прыпасаў і праводзіла на аўтобус.

— Напішы ж, Віталік, пісьмо, як уладкуешся, — прамовіла на развітанне.

Хлопчык моўчкі ўскочыў у аўтобус і толькі ў акно памахаў рукой. А праз тыдзень ад яго прыйшло пісьмо на імя Пятра. Яно пачыналася са слоў: "Прывітанне, тата, і ўсе астатнія!"

Праглынуўшы горкія слёзы, чытала Тацццяна гэты ліст. І ў той жа час яна радавалася па-мацярынску, што ўсё склалася ў сына добра.

Старэйшыя ж адзін за другім абзаводзіліся сем'ямі, радавалі бацькоў сваімі поспехамі. Праз два гады пасля арміі ажаніўся і Віталь. Праўда, яго паведамленне выклікала трывогу ў сэрцы маці, бо ён загадкава напісаў: "Ёсць у вас цяпер нявестка і ўнучак".

А гэтым летам у хаце састарэлых ужо Тацццяны і Пятра сабраліся ўсе пяцёра сыноў і дачок разам са сваімі мужамі і жонкамі, з унукамі. Радасцю свяціліся вочы бацькоў, поўніліся пяшчотай і любоўю іх сэрцы, гледзячы, якіх добрых дзяцей вырасцілі яны. Не сорамна і за ўнукаў.

За развітальным сталом, калі ўсе пасля яго збіраліся пакінуць бацькоўскую хату, з месца ўзняўся Віталь. Ён пяшчотна абняў за плечы пасівелую жанчыну і ціха сказаў:

— Мама, толькі дзякуючы твайму цярпенню, цеплыні і клопату, я сёння стаў чалавекам. Дзякуй табе вялікі за гэта і нізкі паклон, — запознена прызнаўся ён.

**Наталля КАВАЛЁВА.**

Проходит летняя пора. Не совсем благоприятной она была в этом году. Но не обошлось и без хороших солнечных деньков, когда можно было найти себе занятие по душе. Именно так и проводили свободное время ребята с детской юношеской спортивной школы, которые занимаются дзюдо.

Скучать никому не приходилось. Ребята учились спешно разбивать палаточный лагерь, развести костер, приготовить обед... Не обошлось и без купания в реке, загорания на горячем песке, состязаний на песчаном обрыве, проверок на прочность и устойчивость во время специальных тренировок с надувными приспособлениями. Вот здесь и проявлялась сноровка и умение ребят преодолевать препятствия без подручных средств.

Прозрачная вода, чистый лесной воздух – всё это дало возможность прекрасно провести время юным борцам.

Вот уже четыре года работает в ДЮСШ отделение по дзюдо. С удовольствием ходят сюда ребята, чтобы укрепить здоровье, стать сильными. И пользуясь случаем, хочу обратиться к юным жителям нашего города: если вы готовы к трудностям, хотите стать сильными, крепкими, здоровыми, приходите первого сентября в физкультурно-оздоровительный комплекс. Здесь вас познакомят со всеми сложностями и преимуществами борьбы дзюдо.

**Эдуард ВАЛУЧЕВ, тренер ДЮСШ.**



**На снимке: юные дзюдоисты.**
**Фото автора.**

**Лічыць несапраўдным** атэстат аб сярэдняй адукацыі на імя **ГЛУШАКОВА Сяргея Міхайлавіча.**




**Галоўны рэдактар Мікалай ДЗЯТЛАЎ**

**ГОЛАС КАСЦЮКОЎШЧЫНЫ**

*ЗАСНАВАЛЬНІК: КАСЦЮКОВІЦКІ РАЁННЫ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ*

*АДРАС РЭДАКЦЫІ:*
*213640, г. Касцюковічы, вул. Ленінская, 43*
*Індэкс газеты 64045*

*ТЭЛЕФОНЫ:*
*галоўны рэдактар -- 2-11-33; нам.галоўнага рэдактара, адказны сакратар -- 2-16-94; аддзелы: аграпрамысловы і інфармацыі -- 2-16-34; пісьмаў і масавай работы, бухгалтэрыя --2-23-55.*

*Цэнтралізаваны выпуск газеты ажыццяўляе адказны выпускаючы А. ШПАКАВА.*
**Газета выходзіць у сераду і суботу.**

*Аб'ём газеты -1 друкаваны аркуш*
*Тыраж 1514 экземпляраў*
*Друк афсетны*
*Падпісана ў друк 25. 08. 2000 г. 18.00*
*Заказ № 66*

**Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннямі рэдакцыі.**

**Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.**

**Рэгістрацыйны нумар 760 ад 29 сакавіка 1997 года. Газета надрукавана ў Магілёўскай абласной друкарні імя Я.М. Свярдлова, вул. Першамайская, 72.**